4 траўня 1999 г. аўторак

# НАВІНЫ

№47 (578) кошт свабодны




# Спекхард прывёз у Мінск пакет

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

У Мінск з візітам прыбыў пасол ЗША ў Беларусі Дэніэл Спекхард. Як сцвярджаюць нашыя крыніцы, амбасадар прывёз пакет дакументаў па вырашэнні канстытуцыйнага крызісу ў Беларусі, а таксама драздоўскай праблемы. Што канкрэтна запрапануе амерыканскі бок, пакуль невядома. Нагадаем, спадар Спекхард у знак пратэсту пакінуў Беларусь яшчэ ў чэрвені мінулага года, пасля выдварэння беларускімі ўладамі са сваёй рэзідэнцыі ў комплексе «Дразды».

Візіт у Мінск Дэніэла Спекхарда менавіта ў гэтыя дні аказаўся для многіх нечаканасцю. Як нам паведамілі ў інфармацыйнай службе амерыканскай амбасады, Дэніэл Спекхард прыляцеў, каб ацаніць развіццё палітычных падзеяў у Беларусі і данесці да беларускіх уладаў пункт гледжання амерыканскага ўрада. Апроч гэтага, Д.Спекхард збіраецца абмеркаваць пытанне наконт крызісу вакол Драздоў. Падчас свайго пяцідзённага прабывання ў Мінску Спекхард таксама прыме ўдзел ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця офіса інфармацыйнага цэнтра. У прэс-службе МЗС нас пераконвалі, што пасол ЗША прылятае выключна дзеля абмеркавання пытання па сваім размяшчэнні. Маўляў, для новай рэзідэнцыі беларускія ўлады прапануюць розныя варыянты. У МЗС паведамілі таксама, што запланаваны сустрэчы Д.Спекхарда з адным з намеснікаў міністра замежных справаў, з прадстаўнікамі «Дыпсервіса», а таксама з беларускім пасолам у ЗША В.Цэпкалам, які ўжо амаль год знаходзіцца ў Мінску ў сувязі з драздоўскім крызісам. Як нам сказаў Цэпкала, ён яшчэ не збіраецца ў Вашынгтон хаця б на тыдзень. Яго там пакуль не чакаюць. В.Цэпкала лічыць, што Д.Спекхард падчас візіту ў Мінск «агледзіць памяшканне, перш чым прывезці сюды сваю сям'ю».

Як нам стала вядома, амерыканскі бок патрабуе ад беларускіх уладаў прабачэнняў за парушэнне Венскай канвенцыі. Апроч таго, амерыканцы выставілі рахунак і чакаюць ад беларускага боку кампенсацыяў (сума даволі вялікая) за страчаную рэзідэнцыю ў комплексе Дразды.

Дарэчы, нямецкая амбасада да гэтага часу не вырашыла пытанне наконт аналагічных кампенсацыяў. Улады запрапанавалі некалькі варыянтаў для размяшчэння рэзідэнцыі пасла Хорста Вінкельмана, але ніводзін з іх не падыйшоў. ■

*Гутарку з Дэніэлам Спекхардам, якая адбылася напярэдадні яго прылёту ў Мінск, чытайце на 3-й паласе.*


Фота IREX/ProMedia

# Нямецкага тэлежурналіста наведаў КДБ

**Аддзел інфармацыі**

Невядомыя супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларусі папярэдзілі нямецкага журналіста Хольгера Куліка аб адказнасці за «няправільнае асвятленне сітуацыі ў Беларусі». 30 красавіка супрацоўнікі «органаў» наведалі журналіста, які здымаў у Беларусі рэпартаж для буйнейшай тэлекампаніі ZDF, на кватэры ў яго сяброў. Прад'явіўшы пасведчанне, супрацоўнікі КДБ папярэдзілі Хольгера Куліка, што ён знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі без службовага дазволу, што можа выклікаць яго затрыманне тэрмінам да 5 сутак і канфіскацыю аднятых відзаматэрыялаў.

Трэба адзначыць, што Кулік знаходзіўся ў Беларусі як прыватная асоба і не рабіў здымкі на прафесійную відэакамеру. Усе яго сустрэчы таксама насілі выключна прыватны характар. Аналагічная праграма візіту Куліка ў Беларусь восенню мінулага года вылілася ў паўгадзінны спецрэпартаж «Пераможаны страх» аб дзейнасці прэзідэнта Лукашэнкі ў дачыненні да апазіцыйных партыяў і рухаў, які быў паказаны некалькімі еўрапейскімі тэлеканаламі з аўдыторыяй больш чым 100 мільёнаў чалавек. Менавіта гэта і магло, на думку Куліка, выклікаць узмоцненую ўвагу да яго з боку «органаў». Хольгер Кулік пакінуў Беларусь, як і планаваў, увечары 1 траўня. Ніякіх інцыдэнтаў на мяжы з ім не адбылося. ■

*Віншуем нашых калегаў-аднадумцаў з Міжнародным святам прэсы!*

# Беларуская прэса на маскоўскім вакзале

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Заўтра ў Беларусі будзе афіцыйна адзначацца дзень друку. Як і шмат іншых святаў, гэтае нам засталося ў спадчыну ад СССР – у гонар таго факта, што 5 траўня 1912 года выйшаў першы нумар газеты «Правда». А вось у большасці краінаў свету СМІ ўжо адсвяткавалі сваё прафесійнае свята — 3 траўня адзначаецца як Сусветны дзень свабоды прэсы.**

З нагоды свята сабраў прэс-канферэнцыю старшыня дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны. Як прыемную навіну, ён анансаваў новы этап расійска-беларускай інтэграцыі: з гэтага панядзелка ў Маскве можна будзе набыць чатыры беларускія дзяржаўныя газеты – у рамках эксперыменту на кожным маскоўскім вакзале будуць выстаўляцца на продаж па 40 асобнікаў «Советской Белоруссии», «Звязды», «Народнай газеты»... Акрамя таго, у дзяржаўнай «Российской газете» цяпер будзе ўкладыш з беларускай інфармацыяй (а ў адной з беларускіх газетаў – укладыш з расійскай інфармацыяй). Так што, калі вы раптам апынецеся ў Маскве і перад дарогай на радзіму вам спатрэбіцца загарнуць якое-небудзь смажанае кураня, самым патрыятычным будзе расшукаць шапік «Гудок» і набыць там роднае выданне. Але не крыўдуйце, калі вашае кураня сапсуецца да часу, – газеты ў нас такія.

Па словах Міхаіла Падгайнага, на сённяшні дзень дзяржаўны камітэт па друку адначасова вядзе 9 судовых працэсаў з газетамі. У асноўным гэта суды за прызнанне несапраўднымі папярэджанняў дзяржкамдруку.

Нагадаем, што ў лютым камітэт па друку вынес 6 практычна аднолькавых папярэджанняў незалежным выданням за публікацыю дакументаў Цэнтрвыбаркама, а таксама аркушыка календара за 16 траўня. Папярэджанні за «заклік да захопу ўлады» атрымалі НАВІНЫ, «Белорусская Деловая Газета», «Народная Воля», «Имя», «Свободные Новости» і «Пагоня». Усе гэтыя папярэджанні былі абскарджаныя газетамі ў судах. Суды працягваюцца і цяпер.

Дарэчы, па нашай інфармацыі, на судовых пасяджэннях адбываюцца вельмі дзіўныя рэчы: напрыклад, пасля таго, як суд робіць высновы аб тым, што папярэджанне дзяржкамдруку не адпавядае той ці іншай норме заканадаўства, прадстаўнікі камітэта кажуць: «А як правільна? Давайце, мы зробім, як трэба!»

Тым не менш, Міхаіл Падгайны ўпэўнены, што ўсе папярэджанні вынесеныя правільна – маўляў, яны адпавядалі законам, правільнасць была праверана юрыдычным упраўленнем камітэта. Старшыня дзяржкамдруку ўпэўнены, што ва ўсіх працэсах ягоны камітэт можа пераматчы.

Апроч нагляду за газетамі, камітэт па друку займаецца і іншым, напрыклад, сёлета ён рыхтуе прававзненне да юбілею Аляксандра Пушкіна. У рамках юбілею было падрыхтаванае падарункавае выданне пушкінскага «Яўгена Анегіна» – як на рускай мове, так і на беларускай, у перакладзе Аркадзя Куляшова. Такое выданне атрымае кожны, хто сёлета скончыць школу з залатым ці срэбраным медалём. ■

## Гарачая лінія

### Місія МВФ прыбудзе ў Мінск 18 траўня

Чарговая місія Міжнароднага валютнага фонду прыбудзе ў Мінск 18 траўня. Яна будзе знаходзіцца ў рэспубліцы 10 дзён і завершыць працу 28 траўня. Місія прыбудзе для складання штогадовага агляду працы эканомікі рэспублікі. Чакаецца таксама, што беларускія ўлады правядуць перамовы па прадастаўленні Беларусі крэдыту ў памеры каля 100 млн. долараў.

*Аддзел інфармацыі*

### Рынкі абязлюднелі

З 1 траўня перасталі працаваць рэчавыя рынкі Гродна. Прадпрымальнікі абвясцілі бестэрміновую акцыю пратэсту.

У Гродне 10 тысяч прадпрымальнікаў. Па ацэнках прафсаюзнікаў, каля паловы з іх звязаныя з гандлем на рэчавых рынках, самы буйны з якіх— «Паўднёвы». Прадпрымальнікі пратэстуюць супраць кабальных умоваў сертыфікацыі сваіх тавараў, уведзенай уладамі. Яны таксама патрабуюць змяншэння фіксаванага падатку. З красавіка мясцовыя ўлады пачалі спаганяць з прадпрымальнікаў штомесяц 10 мінімальных заробкаў. З траўня гэтая сума аўтаматычна павысілася ў два разы. Каб ізаляваць прафсаюзнага лідэра Валерыя Леванеўскага, які рыхтаваў акцыю пратэсту, улады 27 красавіка знайшлі надуманы повад, каб засудзіць яго на 13 сутак арышту. Леванеўскі пакуль хаваецца, аднак міліцыя чамусьці асабліва не шукае яго. Прадпрымальнікі лічаць, што ўлады вырашылі схаваць прафсаюзнага лідэра за краты на час, калі ў Гродне адбудзецца пасяджэнне парламенцкага сходу Расіі і Беларусі – 10-12 траўня.

*Сяргей МАКСІМОВІЧ*

## НАДВОР'Е




5 траўня па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, месцамі кароткачасовыя ападкі. Вецер паўночна-заходні, 4—9 м/сек. Тэмпература паветра ноччу ад 0 да мінус 5, месцамі плюс 1—3.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**415 000**

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



АЎТОРАК

З КАСТУСЁМ ТАРАСАВЫМ

## Ахвярнік дыктату

У апакрыфічным Евангеллі ад Іаана засведчаны словы Ісуса Хрыста пра ўладароў. «Колькі іх ні прыходзіла на гэты свет, — казаў Ісус, — усе былі злодзеі і разбойнікі».

За праміНулы час якасць гэтай пароды не пацярпела зменаў. Знойдзецца няшмат уладарных адзінак, чыё панаванне не заплямленае крывёй, гвалтам, здзекамі ды іншымі праявамі садысцкіх інстынктаў.

Неаспрэчна, што Слабадан Мілошавіч ёсць адпеты злачынца, а сербскія вайскоўцы паводзяць сябе зараз у Косаве таксама, як гітлераўскія войскі ў Сербіі падчас Другой сусветнай вайны.

Рытуалы цывілізаванасці лічаць за варварскі густ забойства мноства людзей без ідэйнага абгрунтавання. Таму, прыкладам, у Чачні забівалі са спасылкай на «неабходнасць захавання канстытуцыйнай прасторы», у Босніі і Харватыі — дзеля стварэння «Вялікай Сербіі», а генацыд албанскага насельніцтва ў Косаве меў апраўданнем святасць для сербаў свайго паражэння ў бітве з туркамі шэсць стагоддзяў таму. Ну і, зразумела, «захаванне канстытуцыйнай прасторы» ад сепаратыстаў.

Задача Еўрапейскага Саюза, каб сербы задаволіліся, а косаўскія албанцы засталіся жывыя і аўтаномныя, была апрыорна невырашальная. Прэзідэнт Мілошавіч не падпісаў парыжскай дамовы, і NATO пачаў абстрэльваць краіну, якая цярпіць дыктатара. Прабачэнні за тое, што «разумныя» бомбы сманавяліся на жылы раён, за «памылку» пілота, які пераблытаў трактарную калону албанскіх уцекачоў з танкавай калонай сербаў, за «непазбежнасць такіх выпадкаў», гучаць цынічна.

Бо адзіны крытэрый павагі да чалавека і яго асноўнага права — права на жыццё — аднасэнсоўная фізічная недатыкальнасць да цела. Разарваным на кавалкі людзям ужо ніхто не здолее растлумачыць, што іх кінулі на ахвярнік бітвы супраць дыктату Мілошавіча выпадкам. Маўляў, для вас хацелі свабоды.

Зараз, маючы на руках кроў мірнага насельніцтва, гвалтоўную смерць дзяцей, натаўскія кіраўнікі і вайскоўцы пакрысе ператвараюцца ў ваенных злачынцаў. Гібель тэлежурналістаў пад руінамі не зменшыць інфармацыйныя магчымасці дыктатарскага рэжыму, разбураныя масты не спыняць рух сербскіх вайсковых аддзелаў, а знішчанае жыллё і дзіцячыя магілы некалі адгукнуцца актамі тэрору супраць простых людзей з натаўскіх краінаў, як гэта зведалі ў расійскім Будзёнаўску. Невінаватыя папакутніцку гінуць, а да галоўнага вінаватага беспярапынна прыязджаюць прэзідэнты, патрыярхі, экс-прэм'еры і грамадскія дзеячы, каб знайсці такое выйсце з патавай сітуацыі, якое дазволіць абодвум бакам «захаваць твар» пасля крывавай працы каля ахвярніка.

Усе этнічна «зачышчаныя» і «памылкова» забітыя даводзяць, што трэцяе тысячагоддзе Еўропа сустракае з той жа злосцю і культам сілы, з якімі перакрочыла ў другое. Адзіная розніца — іншая зброя.

# Старавойтаў гатовы сказаць «апошняе слова»

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

Хутка будзе пастаўлена кропка ў працэсе ў Кіраўскім судзе, дзе вось ужо пяць месяцаў судзяць былога старшыню акцыянернага таварыства «Рассвет» Васіля Старавойтава і двух ягоных намеснікаў. Учора пракурор Аляксандр Казакевіч павінен быў зачытаць канчатковае абвінавачванне. На час здачы нумара невядома, якое дакладна пакаранне пракурор запатрабуе для абвінавачаных, між тым яшчэ раніцай у панядзелак сп. Казакевіч заяўляў, што «дзеянні» Старавойтава цягнуць на 8—12 гадоў турмы. Сам легендарны старшыня кажа, што «гатовы да зоны», хоць папранейшаму не лічыць сябе злачынцам. «Не магу больш знаходзіцца ў клетцы», — тлумачыць ён суддзям. Па звестках з Кіраўскага суда, сёння павінна прагучаць заключнае слова Васіля Старавойтава, да якога ён рыхтаваўся ў камеры дастаткова працяглы час.

Між тым адвакат Вера Страмкоўская лічыць, што працэс як праходзіў, гэтак і завяршаецца з сур'ёзнымі парушэннямі. Учора адвакатка паспрабавала ў апошні раз спыніць такі ход падзеяў. Яна падала хадайніцтва аб адпраўленні справы на даследванне, а на выпадак адмовы гэтага хадайніцтва рыхтуе адвод суду на чале з Надзеяй Чмарай. Вера Страмкоўская пералічвае цэлы шэраг недахопаў, на якія, яна мяркуе, суд заплюшчыў вочы. Адвакат заяўляе пра парушэнне права Старавойтава на абарону, пра шматлікія недакладнасці ў абвінаваўчым заключэнні і нават згадвае незразумелае, на яе погляд, стаўленне да некаторых асобаў, што праходзяць па справе. Гэтак, Страмкоўская здзіўляецца, чаму былы галоўны бухгалтар «Рассвета» сп.Чубукова аказалася вызваленай ад адказнасці, хоць мела прамое дачыненне да ўсяго, што адбывалася ў гаспадарцы. Аднак чамусьці Чубукова фігуруе ў справе толькі ў якасці сведкі «злачынстваў Старавойтава».

«Падобныя факты даюць падставы падазраваць, што працэс над маім падабаронным заказаны ў палітычных мэтах», — заяўляе Вера Страмкоўская. У хадайніцтве яна таксама спрабавала перакапаць суддзяў у тым, што 74-гадовага вязня, ветэрана Айчыннай вайны Старавойтава трэба выпусціць пад падпіску аб нявыездзе. Суд, аднак, прыслухаўся не да адваката, а да пракурора, і Старавойтаў застаўся за кратамі. Дзень Перамогі двойчы герой сустрэне ў Бабруйскай крэпасці. ■

# Інструкцыі аб любові да Лукашэнкі

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

Дэманстрацыя ўсенароднай падтрымкі прэзідэнта — службовы абавязак «вертыкальшчыкаў».

У Магілёве, напрыклад, распрацаваная стандартная інструкцыя, якую вертыкаль разаслала ва ўсе прадпрыемствы і ўстановы напярэдадні 26 красавіка і 1 Мая.

Прыводзім копію гэтай інструкцыі.

Паводле кіраўнічых указанняў, «дэлегацыі» працоўных павінны мець пры сабе кветкі, лукашэнкаўскія сцягі ў пазначанай колькасці, партрэты прэзідэнта па 1 шт. на 10 чалавек і транспаранты з надпісам «Политику Президента поддерживаем!» ■



26 апреля 1999 года в 12.00 состоится митинг-реквием у памятника жертвам Чернобыля на территории Белорусского научно-исследовательского института экологии и профессиональной патологии (Любуж).

Просим Вашу делегацию в составе 20 человек прибыть к памятнику в 11.30 с корзиной цветов флагами Республики Беларусь с черной лентой

для участия в митинге.

I Мая 1999 года в 10.00 на пл.Ленина состоится митинг трудящихся, посвященный празднику Труда.

Просим Вашу делегацию в составе 20 человек прибыть на пл.Ленина (сбор в центре площади) для участия в митинге.

Рекомендуем украсить колонну:

1. Флагами Республики Беларусь в кол-ве 5
2. Портретами Президента Республики Беларусь в кол-ве 2
3. Транспорантами. Политику Президента одобряем!

## ФОТАФАКТ




Фота IREX/ProMedia

# Прадпрымальнікаў зноў будуць рэгістраваць, але па-новаму

БелаПАН

Савет міністраў зацвердзіў новыя формы пасведчанняў аб дзяржаўнай рэгістрацыі камерцыйных і некамерцыйных арганізацыяў, а таксама індывідуальных прадпрымальнікаў.

Нагадаем, што прэзідэнцкі дэкрэт №11 аб перарэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання прадугледжвае прывядзенне ў адпаведнасць з ім дзеючага заканадаўства і менавіта з-за адсутнасці ўрадавай пастановы чыноўнікі рэгіструючых органаў адмаўлялі ў рэгістрацыі новым суб'ектам гаспадарання.

Апрача таго, Савет міністраў краіны даручыў падпарадкаваным яму дзяржаўным органам распрацаваць узоры заяваў аб рэгістрацыі юрыдычных асобаў і індывідуальных прадпрымальнікаў, анкетаў для заснавальнікаў юрыдычных асобаў, новы парадак уліку ўласнікаў (удзельнікаў) ліквідаваных камерцыйных арганізацыяў, якія маюць запазычанасць па плацяжах у бюджэт, а таксама прызнаў страціўшымі сілу цэлы шэраг сваіх ранейшых пастановаў.

Савет міністраў зацвердзіў таксама парадак выдачы пасведчанняў кіраўнікам юрыдычных асобаў — камерцыйных і некамерцыйных арганізацыяў, якія будуць выдавацца рэгіструючымі органамі і будуць лічыцца дакументамі, што пацвярджаюць паўнамоцтвы кіраўніка. Атрымаць пасведчанні будуць абавязаныя кіраўнікі ўсіх юрыдычных асобаў, незалежна ад формы ўласнасці, на працягу 10 дзён з моманту прызначэння іх на кіруючую пасаду. Кіраўнікам ужо дзеючых суб'ектаў гаспадарання пасведчанні будуць выдавацца ў залежнасці ад тэрмінаў перарэгістрацыі арганізацыяў. Плата за выдачу пасведчанняў устаноўленая ў памеры адной мінімальнай зарплаты, якая з 1 траўня складае адзін мільён рублёў. ■

## ЦЫТАТА НУМАРА

***Раньше мы присутствовали не в самом зале, а присутствовали где-то там на балконе, а оппозиция изголялась над нами так, как хотела...***

***Владимир КОНОПЛЕВ***

*Из интервью корреспонденту НАВІНАЎ в Совете Европы (г.Страсбург), 27 апреля 1999г.*

## АКЦЫІ

# Замест плошчы — на дачу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

1 траўня ў Мінску праходзілі святочныя ўрачыстасці, прысвечаныя Дню салідарнасці, працоўных. Афіцыйныя ўлады, як і кожны год, аб'явілі «мабілізацыю» студэнтаў, ПТВэшнікаў і рабочых, якіх аўтобусамі адвозілі ў раён цырка, дзе людзей выстройвалі калонамі і адпраўлялі ў напрамку плошчы Незалежнасці. Каб неяк кампенсаваць людзям страту першай паловы выхаднога дня, многім на працы ці ў ВНУ абяцалі дадатковую грашовую прэмію альбо адгулы.

У той жа час у парку імя Янкі Купалы сабралася каля 500 прыхільнікаў сацыял-дэмакратычнай партыі і свабодных прафсаюзаў, якія пад бел-чырвона-белымі сцягамі, асобна ад афіцыйнага натоўпу, рушылі ў бок галоўнай плошчы Мінска.

Калі натоўп пад чырвонымі сцягамі з кожным пройдзеным метрам губляў дзесяткі дэманстрантаў, якія проста ўцякалі дадому ці працаваць на дачу, то сацдэмаўскае шэсце пад канец маршруту колькасць удзельнікаў падвоіла.

Дайшоўшы да плошчы Незалежнасці, прадстаўнікі сацдэмаў адмовіліся слухаць выступоўцаў ад улады і абвесцілі акцыю скончанай і прапанавалі разысціся. Скарыстаўшы магчымасць, тое ж зрабілі і прыгнаныя на мітынг студэнты. У выніку праз 15 хвілінаў на мерапрыемстве засталося некалькі соцень пенсіянераў, астатнія ж рушылі проста на вакзал, каб правесці выхадныя на лецішчы.

Пасля акцыі міліцыянты правялі затрыманні некаторых актывістаў Свабодных прафсаюзаў: Козела, Жукоўскага, Марыніча. Учора над імі пачаліся суды. ■

# Гарнякоў не пусцілі ў Мінск

БелаПАН

Прадстаўнікі Беларускага незалежнага прафсаюза гарнякоў з Салігорска не змаглі ўдзельнічаць у першамайскай дэманстрацыі ў Мінску, што, па іх задуме, павінна было стаць вынікам прабегу «Салігорск—Мінск».

Як паведаміла прэс-служба БСДП (НГ), адзін з актывістаў партыі — удзельнік прабегу Мікалай Зімін — быў зняты з дыстанцыі і аштрафаваны на 10 мінімальных зарплатаў. Тым не менш, астатнія члены незалежнага прафсаюза вырашылі працягваць акцыю. Раніцай 1 траўня яны выехалі з Салігорска, каб даехаць да вёскі Валяр'яны, а адтуль прабегчы да Мінска.

Машыну ўдзельнікаў акцыі супрацоўнікі міліцыі затрымалі ў Слуцку, дзе прэзідэнта Беларускай канфедэрацыі дэмакратычных прафсаюзаў Віктара Бабаеда, сацыял-дэмакрата Аляксандра Каралёва і іншых удзельнікаў акцыі пратрымалі амаль да 13 гадзінаў. ■

# Рабочыя лічаць да трох

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Цікавы і паказальны выпадак можа быць унесены ў гісторыю змагання рабочых за свае правы.

Трохдзённая затрымка заробку за красавік на магілёўскіх заводах «Зеніт» і МаАЗ прывяла да стыхійнага сходу рабочых гэтых прадпрыемстваў, дзе яны прынялі пастанову, у якой ставілася ўмова тэрміновай выплаты запазычаных грошай. У адваротным выпадку з наступнага дня рабочыя пагражалі пачаць бестэрміновы страйк. Адпаведныя паперы тут жа былі накіраваныя ва ўсе мясцовыя ўладныя структуры і нават у адміністрацыю прэзідэнта. Самае цікавае, што праз 3 гадзіны грошы былі дастаўленыя ў касы завода, і выплата заробку пачалася. Выходзіць, кіраўніцтва ўсур'ёз спужалася магчымасці страйку, які мог перакінуцца і на іншыя прадпрыемствы горада.

Адзін з рабочых пасля пераможна атрыманага заробку сказаў наступнае: «Мы не рускія, мы па паўгода чакаць не будзем!» ■

## СПОРТ

# Галоўны трэнер расіянаў назваў беларускіх хакеістаў ворагамі

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Першага сенсацыйнага поспеху дабілася хакейная зборная Беларусі ў Нарвегіі на чэмпіянаце свету. Ужо ў стартавай гульні супраць каманды Расіі нашыя хакеісты здолелі паказаць досыць упэўненую гульню і забраць у знакамітага саперніка адно ачко, згуляўшы ўнічыю – 2:2. Па шайбе ў першым і трэцім перыядах закінулі Раманаў і Андрыеўскі.

Гульня мела найважнейшы стратэгічны характар у вызначэнні далейшага турнірнага лёсу як нашых хакеістаў, так і расіянаў. Аб вялікай перадматчавай напрузе гаворыць хаця б той факт, што галоўны трэнер расійскай зборнай Якушаў катэгарычна забараніў сваім падначаленым мець хоць нейкія зносіны з беларусамі, а падчас свайго выступу перад гульнёй доўга запэўніваў, што беларускія хакеісты ні больш, ні менш — ворагі.

Гэтая нічыя дала нашым хлопцам добрыя шанцы на паспяховы працяг і надзею на выхад у фінальную групу. Наступны матч — сёння з камандай Фінляндыі. ■

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



## Дэніэл СПЕКХАРД:
# «Спадзяюся, што 16 траўня пройдзе мірна»

Алесь ДАШЧЫНСКІ

**Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ЗША Дэніэл СПЕКХАРД у чэрвені мінулага года пакінуў Беларусь пасля таго, як улады выселілі яго з рэзідэнцыі ў дыпламатычным комплексе «Драздь». У Вашынгтоне спадар Спекхард займаецца амерыкана-беларускімі адносінамі, штодзённа падтрымлівае кантакты з амерыканскай амбасадай у Мінску. На мінулым тыдні ён прыняў удзел у слуханнях па сітуацыі ў Беларусі, якія адбыліся ў Кангрэсе ЗША. З Дэніэлам Спекхардам гутарыць наш карэспандэнт.**

**— Спадар Спекхард, як Вы ацэньваеце сённяшнюю «тэмпературу» амерыкана-беларускіх адносінаў?**

— Безумоўна, яны вельмі і вельмі няпростыя. Адносіны нацягнутыя, і шмат патрэбна працаваць, каб палепшыць справы. Канечне, гэта будзе нялёгкай задачай, асабліва ў святле апошніх падзеяў на Беларусі. На працягу доўгага часу мы настойваем, каб беларускае кіраўніцтва ажыццяўляла больш рашучыя дзеянні ў галіне дэмакратыі, правоў чалавека, і расчараваныя, што гэтыя працэсы ў Беларусі ідуць вельмі марудна. Мы, аднак, не пакідаем сваіх намаганняў і спадзяемся, што, магчыма, на працягу наступнага года двухбаковыя адносіны палепшацца разам з паляпшэннем дэмакратычных працэсаў у вашай краіне.

**— Чаго можна чакаць пасля 20 ліпеня, калі скончыцца легітымны тэрмін прэзідэнцтва спадара Лукашэнкі?**

— Гэта вельмі няпростае пытанне. Цяжка прадказваць, што можа здарыцца на той момант у будучым. Канешне, вельмі важна, каб кіраўніцтва Беларусі выкарыстала час, што застаецца да 20 ліпеня, для наладжвання сувязі з апазіцыяй ды вялікай колькасцю беларусаў, нязгодных з сучасным становішчам. Неабходна вярнуць грамадству еднасць і такім чынам вырашыць канстытуцыйныя праблемы.

**— Пэўны час Вы маеце магчымасць назіраць за падзеямі ў нашай краіне з Вашынгтона. Што Вас найбольш непакоіць у палітычным працэсе ў Беларусі? Як Вы ацэньваеце магчымасць правядзення прэзідэнцкіх выбараў у траўні?**

— Мяне найбольш турбуе тэндэнцыя выкарыстання ўрадам сілы для падаўлення грамадскіх пратэстаў і апазіцыі. Я думаю, што гэта можа прывесці толькі да непрыемнасцяў у будучым. Кожнаму грамадству, кожнай краіне неабходны механізм, які б дазваляў мірным шляхам даць выхад незадавальненню і апазіцыі да палітыкі ўрада. Спробы кіраўніцтва падавіць адкрытыя грамадскія пратэсты і грамадзянскія акцыі не могуць быць паспяховымі і не адпавядаюць доўгатэрміновым інтарэсам Беларусі. Што да другой часткі пытання, то ўрад ЗША разглядае выбары 16 траўня як вынік крызісу, выкліканага рэферэндумам 1996 года. Яшчэ тады мы настойвалі на неабходнасці супрацоўніцтва беларускага кіраўніцтва з апазіцыяй і Вярхоўным Саветам 13-га склікання для вырашэння дылемы, якая ўзнікла ў выніку змены канстытуцыі і выкарыстання для гэтага працэсу. На маю думку, ураду Беларусі трэба разглядаць гэтыя выбары як палітычнае волевыяўленне часткі свайго народа і ставіцца да іх адпаведным чынам, не ўжываючы сілу дзеля таго, каб не дапусціць правядзення выбараў. Інакш такія дзеянні толькі павысяць тэмпературу ў Беларусі, у той час як цяпер неабходна яе паніжаць, асабліва паміж рознымі палітычнымі партыямі і рухамі. Я спадзяюся, што 16 траўня надыдзе і пройдзе мірна, што стане часткай працэсу пошуку рашэнняў тае дылемы, якая паўстала перад вашай краінай, часткай працы на карысць еднасці, у якой палягае будучыня палітычнага жыцця.

**— Спадар Спекхард, Вашыя калегі, паслы Еўрасаюза, вярнуліся ў Мінск. Чаму Вашае вяртанне зацягваецца і калі дыпламатычны крызіс вакол Драздоў вырашыцца?**

— Мы знаходзімся ў працэсе перамоваў з кіраўніцтвам Беларусі і ўжо дасягнулі пэўных поспехаў у некаторых пытаннях. Наперадзе ў нас шмат працы. Я спадзяюся, што ў недалёкім будучым, калі справы будуць рухацца гэтак жа, як сёння, я змагу вярнуцца ў Беларусь. На жаль, я не магу дакладна сказаць, калі гэта адбудзецца. Паміж нашымі ўрадамі вызначыўся прагрэс у вырашэнні крызісу вакол Драздоў.

**— Кіраўніцтва Беларусі замарозіла супрацоўніцтва з NATO, а яго выказванні ў адрас Злучаных Штатаў носяць недружалюбны характар. Як гэта ўплывае на амерыкана-беларускія адносіны?**

— Несумненна, усё гэта зрабіла і без таго нацягнутыя адносіны яшчэ больш складанымі. Галоўная праблема заключаецца ў тым, каб не дазволіць падобным праявам нанесці непапраўны ўрон стасункам паміж ЗША і Беларуссю. Я лічу, што мы можам пазбегнуць гэтых наступстваў, бо ў стратэгічных інтарэсах нашых краінаў прадухіліць шкоду, якую могуць нанесці двухбаковым адносінам розныя знешнія падзеі. Вельмі многае ў будучым для Беларусі залежыць ад інтэграцыі ў еўрапейскае і міжнароднае супольніцтва.

**— Спадар Спекхард, што Вы пажадаеце чытачам нашай газеты?**

— Не праходзіць і дня, каб я не думаў пра Беларусь і яе людзей, каб я не сумаваў па Беларусі. Я хачу пажадаць ім усяго самага найлепшага і пастаянна малюся пра лепшую долю для вашай краіны. ■

ПОГЛЯД

# Прыярытэты для будучыні

Кастусь ТАРАСАЎ

Напрыканцы 80-х гадоў нашая грамадскасць шчыра падпісвала калектыўныя лісты ў абарону пакрыўджанай бальшавікамі царквы, патрабуючы вяртання вернікам адабраных у іх пад склады, казармы і піўныя храмаў, касцёлаў, манастыроў. Яшчэ панавала кампартыя, і дысідэнцкай інтэлігенцыі мроілася, што царква будзе апазіцыйная ўладам, як тое было напачатку хрысціянства, ва ўсялякім разе, паўплывае на вызваленне духоўнасці з-пад дзяржаўнага-бальшавіцкага прыгнёту.

Калі партакраты зніклі, адроджаная царква і новыя ўлады лёгка паразумеліся і хутка знайшлі агульныя мову і мэты. У канкрэтным выпадку з беларускай дзяржавай такой мэтай стала інтэграцыя ў Расію пад выглядам «саюза славянскіх дзяржаваў» (бязбройнае вяртанне імперыі). Зразумела, што Руская праваслаўная царква і яе падраздзяленне — Беларускі экзархат — выказалі самаадданасць у вырашэнні такой прыемнай геапалітычнай задачы. Тым больш, што ідэі славянскага брацтва з Расіяй не ўсхвалялі Украіну, Польшчу, Чэхію, Славакію, Балгарыю, Харватыю і Боснію. Няўдача з рэанімацыяй панславянскіх ідэяў навярнула прыхільнікаў імперыі на папулярызацыю хаця б праваслаўнага адзінства.

Да рэлігійнай прапаганды такога зместу, апроч зацікаўленай царквы, далучыліся і нашыя дзяржаўныя ўрадоўцы. Магчыма, гэтакая прапаганда была ўхваленая зверху і набыла статус надзвычайнай важнасці, паколькі праваслаўе мусіць цэментаваць галоўныя блокі расійска-беларускай федэрацыі.

Менавіта такую плынь дзяржаўнай зацікаўленасці адлюстроўвае надрукаваны ў газеце «Звязда» за 29 красавіка гэтага года артыкул «Праваслаўе на Беларусі: мінулае, сучаснае, будучыня», напісаны Уладзімірам Канаплёвым. Аўтарскі подпіс пад артыкулам пададзены з указаннем пасады — намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, — што павінна паказаць чытачу важнасць узнятай праблемы. Побач з афіцыйнай пасадай называецца і грамадская: Ул. Канаплёў — адначасна і старшыня Беларускага фонду адзінства праваслаўных народаў.

Артыкул, варта зазначыць, узбагачаны цікавай статыстыкай па канфесійным складзе вернікаў Беларусі, напісаны інтэлігентна і адрасаваны ў першую чаргу інтэлігенцыі і праваслаўнай грамадскасці. Трэба думаць, што інтэлігенцыю ўразяць звесткі пра згаданы вышэй Фонд. «Дарэчы, яго заснавальнікамі, — паведамляе Ул. Канаплёў, — сталі вядомыя ў Беларусі палітыкі, сярод якіх віцэ-прэм'ер Савета міністраў Уладзімір Замяталін, міністр адукацыі Васіль Стражаў, старшыня Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі Рыгор Фёдараў, намеснік старшыні Мінгарвыканкама Віктар Чыкін, старшыня Баранавіцкага гарвыканкама Міхаіл Паўлаў, дэпутаты беларускага парламента Юрый Астапчанка, Марыя Вінакурава, Пётр Калугін, Ігар Катляроў, Анатоль Цюцюноў. Апякункі савет Фонду ўзначальвае мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі».

Няма сумневу, што людзі, якія займаюць такія высокія пасады ў розных сферах (ад асветы да камуністычнай партыі), маюць немалыя магчымасці спрыяць «адзінству праваслаўных народаў». Відочна, што надзеленыя ўладай заснавальнікі Фонду не могуць, як звычайныя вернікі, проста хадзіць у царкву і маліцца Богу. Яны мусяць прагматычна разважаць пра «вузлавыя моманты, якія вызначаюць ролю і месца праваслаўя ў сучасным грамадстве».



Мэта, як бачна з артыкула, ужо сфармуляваная. Яна ясна і сцісла акрэсленая аўтарам, таму лепш працытаваць: «Рэспубліка Беларусь **шукае сваю ўласную нацыянальную ідэнтычнасць**. Яе самаідэнтыфікацыя не можа атаясамлівацца з адной канфесіяй. Але, тым не менш, менавіта **праваслаўная грамадскасць па прычыне свайго гістарычнага прызначэння садзейнічае фармуляванню прыярытэтаў нацыянальнай ідэалогіі, якая стане агульнай для ўсёй краіны»** (падкрэслена мной. — **К.Т.**).

Іншымі словамі, заснаваныя вышэйшымі чыноўнікамі краіны фонды з дапамогай запрошанай грамадскасці будуць намагацца ўсталяваць праваслаўе ў якасці нацыянальнай (і магчыма — дзяржаўнай) рэлігіі Беларусі. Аўтар акрэслівае дзве групы інтэлігенцыі, якія маюць гэтае адказнае гістарычнае прызначэнне: «Да першай групы адносяцца розныя праваслаўныя брацтвы, фонды, культурныя цэнтры і выдавецтвы, таварыствы, якія займаюцца сацыяльнай дапамогай састарэлым і інвалідам, дабрачыннасцю» Другая група абдымае тых, хто мае «праваслаўны менталітэт» (найперш, дзеячы культуры, літаратуры, мастацтва). Матэрыяльная база для выпрацоўкі «прыярытэтаў нацыянальнай ідэалогіі» існуе і пашыраецца. Сёння дзейнічае 1.081 праваслаўны прыход. Праваслаўе прыходзіць у войска. Урачыстае адкрыццё першага палкавога храма пад Мінскам сведчыць пра жаданне ўдзельнічаць у працэсе «самаідэнтыфікацыі» сілавых міністэрстваў Беларусі.

Самае дзіўнае, што, на думку намесніка старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Беларусь яшчэ «шукае сваю ўласную нацыянальную ідэнтычнасць». Нібыта Беларусь не мела ўласнай мовы, нацыянальнай культуры, самастойнай гісторыі. Лёгка прыгадаць, калі ўсё гэта было адкінута і штучна створана пустка, на якой зараз трэба знайсці нешта духоўнае.

Пастаўленая мэта па стварэнні культурных сурагатаў праваслаўнага кшталту, «агульных для ўсёй краіны», з абавязковасцю павядзе краіну добра вядомым шляхам у стан правінцыі Трэцяга Рыма.

Памылкова думаць, што фармуляванне «прыярытэтаў нацыянальнай ідэалогіі» — тактычнае дзеянне, разлічанае, напрыклад, на пашырэнне папулярнасці А. Лукашэнкі сярод расійскага электарата. Прэзідэнт А. Лукашэнка як фізічная асоба можа быць не абраны на выбарах кіраўніка саюзнай дзяржавы. Праваславізацыя Беларусі — стратэгічны разлік імперскіх колаў Расіі, якія выкарыстоўваюць зручны палітычны момант і разлічваюць на паспяховае знішчэнне культурнай самастойнасці Беларусі, распачатае ў XIX стагоддзі.

Таму ў рэальнасці ўся чыннасць беларускай інтэлігенцыі «праваслаўнага менталітэту» міжвольна працуе супраць будучыні беларускай дзяржаўнасці. Добрыя намеры інтэлігенцыі, як вядома, часцяком прыводзяць у пекла. ■

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# Курапатам – дзяржаўны помнік

Мікалай АНЦЫПОВІЧ, дацэнт БДПА

**Найбольш уражлівым узорам уздзеяння гістарычнай памяці на аздараўленне грамадства стала адкрыццё той страшнай трагедыі, якая адбывалася ва ўрочышчы Курапаты ў 30–40-х гадах. З гэтага часу ў сусветнай свядомасці слова «Курапаты» стала асацыіравацца з бальшавіцкім тэрорам. У Беларусі раскрыццё курапацкай трагедыі стала своеасаблівым стартам у барацьбе за адраджэнне дзяржаўнай незалежнасці.**

Яшчэ ў 1989 годзе ўрадавай пастановай прадугледжвалася пабудова ў Курапатах помніка ахвярам тэрору. Невыкананне гэтай пастановы ўзбуджае дзейнасць дробных суполак на саматужнае выкананне гэтай святой справы.

Тыповым прыкладам саматужнасці, мастацкай безгустоўнасці і суб'ектыўнага вызначэння мэтавай скіраванасці будучага помніка з'яўляецца праект А.Белага – старшыні клуба «Спадчына». Адметнасцю гэтага праекта выступае ягоная заканспіраванасць, аб ім стала вядома толькі з газетнай публікацыі, дзе паведамляліся рэквізіты рахунку, на які прапаноўвалася пераводзіць фінансавыя ахвяраванні. Ды як высветлілася пазней, увогуле ніякага праекта няма і не было, не кажучы ўжо аб макеце крыжа з упісваннем яго ў курапацкую прастору. Сп. А.Белы паказвае ўсё на пальцах. Аргкамітэт па ўзвядзенні крыжа ў Курапатах, аб якім было абвешчана ў друку, на самой справе пачаў стварацца толькі праз месяц пасля пачатку збору ахвяраванняў на помнік і серыі крытычных матэрыялаў у адрас А.Белага. Аб жыццёвасці гэтага камітэта гаворыць той факт, што ў яго былі кааптаваныя нават тыя арганізацыі, кіраўніцтва якіх і не ведала аб гэтым. Напрыклад, дабрачынны фонд Крыжа Еўфрасінні Полацкай даваў толькі папярэднюю згоду на свой удзел у мемарыялізацыі курапацкай трагедыі, прытым з вельмі істотнай агаворкай: каб было арганізаванае шырокае абмеркаванне праекта грамадскасцю, спецыялістамі з абавязковым стварэннем макета помніка з мастацкім, гістарычным, ідэалагічным абгрунтаваннем. Тым не менш А.Белы валявым чынам уключыў гэтую арганізацыю ў аргкамітэт. Падчас першага паседжання з-за аўтарытарнасці і антыдэмакратычнасці, якія панавалі на ім, вядомы прафесар-гісторык заявіў аб сваім выхадзе са складу аргкамітэта.



Вялізарны камень, на ім выкананы ў чыгуне і павялічаны ў памеры да 3-х метраў крыж святой Еўфрасінні, выявы беларускіх святых, над якімі пануе эпітафія «Пакутнікам Беларусі». Уся гэтая эклектыка і складае сутнасць будучага помніка ў Курапатах, які, па задуме А.Белага, павінен кампенсаваць нежаданне кіраўніцтва нашай краіны з годнасцю ўвекавечыць ці не самую трагічную старонку беларускай гісторыі. Вельмі цяжка растлумачыць, чаго больш у аўтарскай задуме: мастацкага дылетанцтва, гістарычнай недасведчанасці ці проста звычайнай ідэалогіі, якая скіраваная на змяненне сэнсавай сутнасці Курапатаў як месца масавых бальшавіцкіх расстрэлаў.

Няма патрэбы тлумачыць немагчымасць перадачы праз чыгун непаўторнай кампазіцыі крыжа вялікай асветніцы: залатых пласцінак з выявамі на верхніх крыжавых канцах Ісуса Хрыста, Іаана Хрысціцеля, Іаана Прадцечы, Боскай Маці, выкананых у тэхніцы перагародчатых эмаляў, і ў цэнтры ніжняга серадкрыжжа – выявы чатырох евангелістаў, а таксама арханёлаў Гаўрыіла і Міхаіла. Калі ж, як вынікае з друку, сп.Белы мае намер замест біблейскіх персанажаў змясціць выявы беларускіх святых, то прычым тут ужо напрастольны крыж святой Еўфрасінні. Гэта ўжо будзе крыж вельмі зямнога А.Белага. У гэтым выпадку неабавязковымі падаюцца залішнія намаганні па пастаноўцы чарговага крыжа ў Курапатах, прэтэнзіі на агульнадзяржаўны пакутніцкі сімвал з абавязковым пад яго зборам ахвяраванняў па ўсёй краіне. Мабыць, заземленасць «аўтарскага» крыжа і дазваляе змясціць (пакуль што ў фантазіях Белага) на ім толькі праваслаўных святых, не пакінуўшы, напрыклад, месца святому Іасафату Кунцэвічу, і зарэзерваваўшы на крыжы месца для беларускіх рымакаталікоў, якіх, як лічыць А.Белы(?!), у перспектыве павінен кананізаваць Рым. Надпісы на тыльным баку прозвішчаў рупліўцаў і фундатараў узвядзення крыжа будуць выглядаць, мякка кажучы, крыкліва і назойліва на фоне безыменных магілаў ахвяраў тэрору ў Курапатах.

Вядома, і грамадскі камітэт (калі такі дзейнічае), і асабіста сп.Белы ці любы іншы грамадзянін мае права паставіць крыж, помнік, памятны знак бязвінна загінулым у Курапатах. Але прэтэндаваць на ўшанаванне памяці ўсіх курапацкіх пакутнікаў мае права толькі дзяржава. Чаму менавіта дзяржава, а не шырокая грамадскасць? Адказ палягае на наступным. Трагедыя Курапатаў – гэта не толькі вынік камуністычнай ідэалогіі, але і ў няменшай ступені – вынік адсутнасці ў 30-х, 40-х гадах суверэннай беларускай дзяржавы. Пагэтаму менавіта адроджаная беларуская дзяржаўнасць павінна ўсімі сродкамі, у тым ліку і мастацка-манументальнымі, замацаваць у памяці сучаснікаў і нашчадкаў трагедыі беларускага народа падчас знаходжання яго пад сталінскай уладай. Такога роду падыход да гістарычнай памяці з боку дзяржавы з'яўляецца глыбокамаральным гарантам немагчымасці паўтарэння генацыду супраць беларускага народа. Калі ж кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь яшчэ не «саспела» для такога разумення, то пачэсным абавязкам грамадскасці павінна быць рашучае патрабаванне выканаць пастанову Савета міністраў 1989 года.

Прыярытэт дзяржавы не прыніжае ролі грамадскіх арганізацыяў у імкненні ўзбудаваць помнік у Курапатах коштам народных ахвяраванняў. Але грамадскі чын пабудовы помніка ні ў якім разе не павінен прыніжацца ягонымі мастацкімі вартасцямі. У адваротным выпадку нават інфармацыйны камень, які быў пастаўлены ў Курапатах яшчэ 10 гадоў назад ад імя афіцыйных уладаў, з'яўляецца значна лепшым напамінкам аб ахвярах, чым будучы «крыжамадэрн» А.Белага.

Сама прэтэнцыйнасць назвы «Пакутнікам Беларусі» патрабуе адказу на пытанне: што такое пакутніцтва? Паняцце пакутніцкай смерці ўключае ў сябе і лёс людзей, якія загінулі ад рук злачынцаў на бытавой глебе, і ахвяраў авія- і аўтакатастрофаў, прыродных катаклізмаў і г.д. Сюды ўключаюцца і ахвяры палітычнага тэрору, усемагчымых войнаў і рэвалюцыяў. Адсутнасць у назве крыжа ўдакладнення пакутніцтва як выніку сталінскага генацыду дае падставы адносіць сюды ўсіх тых няшчасных, якія прынялі ненатуральную смерць за ўсю тысячагадовую гісторыю нашай Бацькаўшчыны. У сувязі з гэтым узнікае і другое пытанне: а ці абавязкова, каб агульнабеларускі пакутніцкі помнік знаходзіўся ў Курапатах? Курапацкая «прывязка» крыжа А.Белага з абезасобленай эпітафіяй «Пакутнікам Беларусі» і з прэтэнзіяй на Еўфрасінneўскі выяўляе жаданне прыдаць Курапатам статус камунальных могілак. І ўсё гэта робіцца з адзінай мэтай: замяніць факты камуністычных злачынстваў на Беларусі ў 30-х, 40-гадах на прыдатнае для ўсіх выпадкаў і часоў паняцце пакутніцкай смерці.

Жадае А.Белы гэтага ці не, а фактычна ён падзяляе думку сумнавядомага прафесара А.Залескага, з ягоным жаданнем вытруціць з людской памяці Курапаты як месца бальшавіцкага генацыду супраць беларускага народа. Праўда, версію камуністычнага гісторыка аб тым, што курапацкі лес – апошні прытулак гамбургскіх яўрэяў, забітых фашыстамі падчас Другой сусветнай вайны, А.Белы пашырае расплывістай эпітафіяй «Пакутнікам Беларусі». ■

## ПЫТАННЕ – АДКАЗ

**Як паўплывае падвышэнне мінімальнай заработнай платы на памер пенсіяў у траўні?**

**Ганна КАПЫЦЬКА, Мінск**

Як паведамілі нам у міністэрстве сацыяльнай абароны, змяненне МЗП цягне за сабой падвышэнне мінімальнай пенсіі, якая з 1 траўня складзе паўтара мільёна рублёў. Аднак тым, хто атрымлівае такую пенсію, належыць яшчэ надбаўка ў паўтара мільёна. Так што менш за тры мільёны пенсіянеры атрымліваць не будуць. У сярэднім пенсіі ў траўні павялічацца на 17,2%. Максімальную пенсію будуць атрымліваць непрацуючыя пенсіянеры, што маюць працоўны каэфіцыент 4 (гэта тыя, хто меў найбольшыя заробкі), – яна складзе 9 мільёнаў 195 тысяч рублёў. Што ж датычыць пенсіянераў, якія яшчэ працуюць, то максімальная пенсія для іх (пры каэфіцыенце не менш за 1,3) складзе 6 мільёнаў 675 тысяч рублёў. ■

**У нас у Асіповічах вось ужо два месяцы няма прышчэпкі АКДС – нашыя дзеці могуць захварэць на коклюш, дыфтэрыю ці слупняк. Што нам рабіць?**

**Сям'я П.**

Вядучы эпідэміёлаг міністэрства аховы здароўя Людміла Мосіна паведаміла нам, што сапраўды недзе на працягу месяца ў Асіповічах адсутнічала прышчэпка АКДС. Па яе словах, гэта было выклікана цяжкасцямі з канвертацыяй валюты (мы звычайна закупляем гэтую прышчэпку ў Расіі). Нядаўна Беларусь папрасіла Сусветную арганізацыю аховы здароўя дапамагчы некаторымі прышчэпкамі, і яны былі нам перададзеныя ў якасці гуманітарнай дапамогі. У склад дапамогі мусіла ўваходзіць і АКДС, аднак чамусьці яе пакуль не даставілі. Людміла Мосіна запэўніла нас, што прышчэпку ў Асіповічы хутка прывязуць.

АКДС першы раз уводзіцца немаўлятам у трохмесячным узросце, потым у чатыры з палавай месяцы, у 6 месяцаў і ў год. Пасля трэба прышчапляцца кожныя пяць гадоў. Найбольшую праблему, па словах эпідэміёлага, прадстаўляюць дарослыя людзі, якія проста адмаўляюцца прышчапляцца ад дыфтэрыі. Большасць хворых на дыфтэрыю – менавіта дарослыя. ■

**Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

**Праграма стыпэндыяў для студыяў у Польшчы на 1999/2000 год.**

Фонд імя Стэфана Баторыя ў Варшаве абвяшчае конкурс на гадавыя стыпэндыі ў Польшчы для студэнтаў 3 і 4 курсаў вышэйшых навучальных установаў Беларусі, якія знаходзяцца на этапе напісаньня дыплёмаў у галіне:

- **Права і адміністрацыі;**
- **Макраэканомікі;**
- **Сацыялёгіі;**
- **Дзяржаўнага кіраваньня й адміністрацыі;**
- **Гісторыі;**
- **Міжнародных стасункаў, паліталёгіі.**

Тэма дыплёму павінна датычыць праблемаў сучаснае Беларусі і магчымасьцяў іх сыстэмнага вырашэньня.

Кандыдат на стыпэндыю ў Польшчы павінен адрозьнівацца вельмі добрымі адзнакамі сваіх папярэдніх студыяў. Веданьне польскае мовы (пасыўнае або актыўнае) будзе вельмі дарэчы, хаця й не зьяўляецца абавязковым (Фонд забясьпечвае для стыпэндыятаў месячны падрыхтоўчы курс польскае мовы на працягу 1-28 жніўня 1999 г.)

Фармуляры анкетаў, а таксама дадатковую інфармацыю можна атрымаць штодзённа ад панядзелка да пятніцы ад 11 да 17 гадзіны ў **Маладзёвым Інфармацыйным Цэнтры (Менск, вул. Дарашэвіча 4-2,** ад пл. Якуба Коласа, насупраць Палітэхнічнае Акадэміі) **тэл.: 2-32-27-43**

**e-mail: yic@cscsc.lingvo.minsk.by**

Цалкам афармленыя заявы просім дасылаць **да 25 траўня 1999 г.** на адрэсу:

**Польскі Інстытут, вул. Румянцава, 6, 220034, Менск, з надпісам – стыпэндыя**

**Рэдакцыя газеты запрашае на працу карэктара і наборшчыцу з вопытам працы. Абавязковае валоданне беларускай і рускай мовамі. Тэл. 2-100-253**




**Дорогие братья и сестры!**

На окраине Минска в поселке Новинки на пожертвования благотворителей, собираемые сестрами на улицах нашего города, ведется строительство женской обители и Православного храма во имя Святой Преподобномученицы Великой княгини Елисаветы и Святителя Николая. На территории монастыря решено воздвигнуть по чудом сохранившейся копии-миниатюре XIX века Пречестный и Животворящий Крест Господень. Требуются значительные средства. Мы обращаемся ко всем нашим дорогим о Господе благодетелям: Помогите! Кто не может деньгами -- молитвой.

Ваше имя будет записано в монастырский синодик для поминовения.

Милость Божия да пребудет с Вами!
Будьте здоровы и Богом хранимы!
Сестры молятся о Вас. Спаси Вас Господи!

Организации могут отправлять свои пожертвования с пометкой в платежном поручении "**На Воздвижение Креста Господня**" на наш расчетный счет 3015263120010 в АО "Приорбанк", филиал 0101, код 813. Валютный: 3015263125116 в АО "Приорбанк". Православное сестричество во имя Преподобномученицы Великой княгини Елисаветы.

Братья и сестры могут привезти пожертвования в поселок Новинки (18 маршрут автобуса) или отправить их почтовым переводом по адресу: **220028, г. Минск, ул. Маяковского, 152, кв. 14, Сысун Елена Константиновна. Тел. (017) 289-81-67.**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 540 Нумар падпісаны ў друк 02/05/99 (15:00) Наклад – 16.930

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012